Рэха

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# Гэта быў самы што ні ёсць генацыд

## Роздум па прачытанні кнігі Леаніда Маракова "Валеры Маракоў"

Водгук на гэту кнігу, якая прымусіла мяне ўзяцца за пяро, "Народная воля" ўжо надрукавала: яго напісаў паэт Сяргей Грахоўскі. Ён даў справядліва высокую ацэнку зробленай Л.Мараковым працы, і дабаўляць што-небудзь у гэтым плане няма патрэбы. Мая задача іншая: падзяліцца некаторымі думкамі, абуджанымі і распаленымі чытаннем названай кнігі.

Трагічны лёс таленавітага беларускага паэта 20-х гадоў Валерыя Маракова — гэта тая кропля расы, у якой бачны ўвесь навакольны свет. А менавіта: у ягоным лёсе — лёс многіх-многіх-многіх беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, якія былі, як і Маракоў, расстраляны бальшавікамі або загінулі на бальшавіцкай катарзе. У ягоным лёсе — лёс усёй нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі 20—30-х гадоў XX стагоддзя. Лёс усёй нашай мастацкай культуры, навукі, асветы. А перш за ўсё — лёс нашай літаратуры, якую душылі, таптал, калечылі і нявечылі, як толькі маглі, з якой стараліся вытравіць да астатку жывую чалавечую душу.

Гэты лёс мае сваю дакладную назву — генацыд. Але ж генацыд — гэта не мор ад чумы ці халеры, які зваліўся на краіну, на народ немаведама адкуль — як насланнё, як пошасць, як стыхія. Генацыд — гэта наўмысна запланаваная і здзейсненая расправа, гэта жахлівы, кашмарны вынік зусім пэўнай нацыянальнай палітыкі.

Кнігу Л.Маракова чытаць страшна. Страшна — бо чытаеш пра аднаго паэта, расстралянага на 29-м годзе жыцця, а думаеш і пра сотні іншых — сотні яго паплечнікаў і сяброў, тады ж, у тыя гады расстраляных або замучаных на катарзе. Думаеш — гледзячы на іх фатаграфіі ў кнізе, асабліва — на рэалістычныя фоткі з асабовых спраў вязняў, зробленыя ў турме, у засценках сусветна вядомага страшылішча НКУС (па-руску — НКВД). І ад гэтых думак на душу і розум находзіць немарачны стан, з якога не выбавіцца, якога не адолець, бо ён непасільны для нармальнай чалавечай псіхікі. Цябе не адпускае жах-роспач, і ты не пытаеш, а крычыш — крычыш так, каб пачуў увесь вялікі белы свет: Людзі! Дык што ж гэта было? Што ж гэта тварылася на нашай няшчаснай зямлі? Што *я н ы* — непахісныя, цвёрдакаменныя, жалезныя — рабілі з намі, з нашым жыццёвым укладам, з нашай культурай, з нашай адвечнай, Богам нам дадзенай мовай?..

Вялікі пісьменнік і навуковец Максім Гарэцкі — расстраляны бальшавікамі... Знакаміты празаік, паэт і грамадскі дзеяч, першы старшыня ўрада БССР Цішка Гартны — звар'яцеў і памёр у бальшавіцкай турме... Выдатны драматург, празаік, рэжысёр і акцёр Уладзіслаў Галубок — загінуў у бальшавіцкім астрозе... Першы пралетарскі паэт, празаік і драматург Міхась Чарот — расстраляны бальшавікамі... Знаны навуковец, літаратар і грамадскі дзеяч акадэмік Язэп Лёсік — расстраляны бальшавікамі... Магутнага таленту празаік Міхась Зарэцкі — расстраляны бальшавікамі... Цудоўны, самабытны паэт Уладзімір Хадыка — загінуў на бальшавіцкай катарзе ў каменяломнях... Бліскучы пісьменнік-сатырык Андрэй Мрый — загінуў у бальшавіцкай ссылцы... Празаік з яўнымі прыкметамі геніяльнасці Лукаш Калюга — расстраляны бальшавікамі... Вялікага таленту празаік і відны грамадскі дзеяч Платон Галавач — расстраляны бальшавікамі... Выдатны паэт філасофскага складу Уладзімір Жылка — загінуў у бальшавіцкай ссылцы... Таленавіты паэт-лірык Тодар Кляшторны — расстраляны бальшавікамі... Ярка таленавіты празаік Барыс Мікуліч — памёр у бальшавіцкай ссылцы... Таленавіты драматург Васіль Шашалевіч — загінуў на бальшавіцкай катарзе... Дасканалы літаратурны крытык Адам Бабарэка — загінуў у бальшавіцкай ссылцы... Таленавіты празаік і навуковец Янка Нёманскі — расстраляны бальшавікамі... Самабытны празаік Сымон Баранавых — расстраляны бальшавікамі... Звонкагалосы паэт-патрыёт Алесь Дудар — расстраляны бальшавікамі... Паэт і кінадраматург Анатоль Вольны — расстраляны бальшавікамі... Майстар лірычнай прозы Васіль Каваль — расстраляны бальшавікамі... Паэт Сяргей Дарожны — загінуў на бальшавіцкай катарзе... Вялікая надзея беларускай паэзіі Сяргей Астрэйка — расстраляны бальшавікамі (у 25 гадоў ад роду)... Высокай творчай культуры паэт Юлій Таўбін — расстраляны бальшавікамі... Паэт з ласкі божай Міхась Багун — загінуў па дарозе на катаргу... Паэт Юрка Лявонны — расстраляны бальшавікамі... І ячшэ, і яшчэ, і яшчэ... Мартыралог амаль бясконцы. Толькі некаторым з іх, лічаным, было больш за сорак. А ў пагалоўнай большыні — гэта былі людзі ва ўзросце ад 20—23 да 35—38 гадоў.

Задумаемся, паважаны чытач, на хвілінку і паспрабуем уявіць: якою была б сёння, г.зн. праз семдзесят гадоў — ад пачатку 30-х, беларуская літаратура (і проза, і паэзія, і драматургія, і эсэістыка), калі б не гэта павальнае, масавае, пад корань вынішчэнне талентаў? Колькі і якіх твораў падарылі б яны свайму народу і ўсяму чалавецтву?! І як бы загаварылі пра нас, пра Беларусь, пра беларускую культуру ў свеце! І з якой бы павагай у блізкіх і далёкіх краінах да нас ставіліся! — бо народ паважаюць за яго талент, за яго творчасць, за яго адухоўленую стваральную дзейнасць, а не за гвалт, не за разбой, не за аскал дзяржыморды.

Кажу пра літаратуру, але ж такое карчаванне талентаў ішло і ў беларусім тэатры, і ў мастацтве, і ў беларускай, асабліва гуманітарнай, навуцы, і ў галіне асветы і адукацыі, — скрозь і ўсюды, дзе людзі адважваліся паказаць сябе свядомымі грамадзянамі сваёй краіны, прадстаўнікамі сваёй нацыянальнай культуры, носьбітамі сваёй самабытнай духоўнасці, праявіць пачуццё нацыянальнай годнасці, загаварыць сваёю роднай мовай. Тысячы, многія тысячы асоб, якія складалі духоўную і інтэлектуальную эліту Беларусі, былі знішчаны. Далучым да іх сотні тысяч сялян — самых лепшых сялян, самых працавітых і разумных, на якіх трымалася да пачатку калектывізацыі сельская гаспадарка рэспублікі. Яны былі б лепшымі і ў калгасах, бо не былі п'яніцамі і лайдакамі, злодзюганамі і басякамі. Але іх выкарчавалі — гэтак жа, як і нацыянальную інтэлігенцыю.

Цяпер — пра адну акалічнасць, не запыніўшыся на якой, мы не зразумеем галоўнага ў высвятленні прычын нацыянальнай трагедыі беларусаў. Хто прысудзіў у Мінску ў адзін восеньскі дзень 1937 года адразу ж васемнаццаць паэтаў і пісьменнікаў Беларусі да расстрэлу? Прыезджая з Масквы Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР. Прыезджая, аказваецца! Ну, а хто з членаў гэтай Калегіі, гэтай банды забойцаў, чуў раней хоць адно імя з тых, каго яны пазбаўлялі жыцця? Хто з іх трымаў у руках хоць адну беларускую кнігу? Як там — у вялікага паэта Расіі:

*Не мог щадить он нашей*
*славы;*
*Не мог понять в сей миг*
*кровавый,*
*На что он руку поднимал!..*

Яны, гэтыя члены Калегіі, ведалі адно — яшчэ задоўга да вынясення прыгавору: беларускіх нацыяналістаў трэба знішчыць усіх да аднаго! Каб ніякай беларускай літаратуры! Ніякага беларускага пісьменства наогул! Ніякага беларускага тэатра! Ніякай беларускай гісторыяграфіі! Трэба нагнаць такога страху-жаху на "тутэйшых", каб ніхто з маладых не ўздумаў і не пасмеў выяўляць і сцвярджаць сябе ў беларускай нацыянальнай культуры, літаратуры, тэатры. Каб кожны, каму Бог даў творчыя задаткі, пераходзіў на мову "старэйшага брата" і далучаўся да рускай мастацкай творчасці.

Ці трэба спецыяльна зазначаць, што на месца вынішчанай або сасланай на катаргу беларускай інтэлігенцыі прыязджалі людзі здалёку, з усяго былога Саюза, перш за ўсё з Расіі, вядома. Людзі, якія не мелі ніякага жадання ўпісвацца ў беларускую нацыянальную культуру, — хаця б таму, што бачылі, куды і да чаго яно ўсё ідзецца, да чаго заклікае і куды вядзе "руководящая и направляющая сила советского общества". Да катла! Да аднаго вялізнага катла! — у якім будуць змешаны-перамешаны ўсе мовы, усе культуры, усе нацыі і народнасці СССР. Ну, не проста перамешаны, каб у выніку атрымалася нешта няпэўнае сярэдняе, а — будуць асіміляваны, заглынуты і пераўтвораны ў незлічонай рускамоўнай масе. Колькі мудрасці было ў нацыянальнай палітыцы крамлёўскіх правадыроў — добра бачна сёння. Руйнаванне апораў звышмагутнай дзяржавы пачалося тады — калі пачалі расстрэльваць беларускіх (украінскіх, грузінскіх, узбекскіх) паэтаў, калі пачалі закрываць беларускія (украінскія, казахскія, малдаўскія) школы.

Я хачу закончыць гэты свой роздум зваротам да тых, каму сёння дваццаць, ці семнаццаць, ці нават усяго пятнаццаць ад роду. Дарагія маладыя сябры! Думайце, прашу вас, думайце пра лёс сваёй Бацькаўшчыны — Беларусі, пра лёс тых, у каго гвалтам адабралі свяшчэннае чалавечае права на жыццё, на працу і творчасць, на любоў і радасць. Думайце, асэнсоўвайце гэтую жахлівую праўду веку. Яна адкрываецца для вас не толькі ў кнізе "Валеры Маракоў", але і ў "Споведзі" Л.Геніюш, і ў кнізе Г.Кірылава "Гарт" (пра трагедыю маладых беларускіх патрыётаў у першыя пасляваенныя гады), і ў аповесцях аб перажытым С.Грахоўскага, і ва ўспамінах Я.Кіпеля "Эпізоды", і ў многіх іншых. Думайце пра гэта, маладыя людзі, і помніце! Помніце тады, калі пачуеце нейчы плач па страчаным цудоўным жыцці ў былым СССР, калі пачуеце нейчы праклён на адрас незалежнай, суверэннай Беларусі. Помніце пра гэта, калі вас будуць купляць падачкамі, каб падбіць на здраду Бацькаўшчыне, каб ператварыць вас у запраданцаў, у халуёў і лёкаяў. Думайце і помніце, калі не хочаце паўтарыць лёс Валерыя Маракова і соцень тысяч іншых, сумленных перад сабой і Радзімай, грамадзян Беларусі, што заўчасна, у росквіце жыццёвых сіл і здароўя, загінулі на Салаўках і на Калыме, у Прыўраллі і ў Забайкаллі, у Прыамур'і і ў стэпах Казахстана, і — незлічоных, выяўленых і дасюль не выяўленых Курапатах. Думайце і помніце, калі не хочаце, каб на Беларусі зноў запанавала страшнае пачварнае зло.

## Растуць і растуць даўгі

Каля 10 трыльёнаў рублёў запазычылі сваім крэдыторам сельскагаспадарчыя структуры Магілёўскай вобласці. 5,4 трыльёна рублёў з гэтай сумы складаюць даўгі энергетыкам. Паводле звестак Магілёўскага аблсельгасхарча, сёлета некаторыя раёны вобласці пакуль не могуць аплачваць нават бягучае ўжыванне электраэнергіі. З пачатку года ніводнага рубля ў лік пагашэння доўгу не паступіла ад гаспадарак Касцюковіцкага, Краснапольскага і Хоцімскага раёнаў. Яшчэ чатыры раёны аплацілі энергетыкам менш за 1 працэнт атрыманай электрычнай энергіі.

Апрача гэтага, над гаспадаркамі Магілёўшчыны "вісяць" і іншыя даўгі. Напрыклад, некаторыя раёны ўжо 2 гады не разлічваюцца за атрыманую па лізінгу тэхніку; да трыльёна рублёў наблізіліся даўгі па плацяжах у бюджэт; крыху больш, чым напалову, пагашаныя авансы, выдадзеныя на зерне. Да ўсіх гэтых даўгоў трэба дадаць запазычанасць калгасаў і саўгасаў сваім работнікам: толькі за чэрвень 70 гаспадарак запазычылі па зарплаце 53,2 мільярда рублёў.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Старшыня ЛДП С.Гайдукевіч узначаліў новае грамадскае аб'яднанне

Як стала вядома, Міністэрства юстыцыі Беларусі зарэгістравала новае грамадскае аб'яднанне — "Таварыства дружбы з народамі краін Блізкага Усходу". Асноўнай мэтай гэтай рэспубліканскай арганізацыі, згодна са статутам, з'яўляецца "ўмацаванне дружбы паміж беларускімі народамі і народамі краін Блізкага Усходу".

Таварыства дружбы ўзначаліў старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч. Ягонымі намеснікамі сталі 8 чалавек. Яны ж прызначаныя старшынямі наступных структурных падраздзяленняў аб'яднання: Беларуска-Кувейцкае таварыства, Беларуска-Іракскае, Беларуска-Іарданскае, Беларуска-Катарскае, Беларуска-Турэцкае, Беларуска-Ліванскае, Беларуска-Лівійскае і Беларуска-Сірыйскае таварыства.

**Наталля КУЛАГІНА.**

Постскриптум

## Честь и достоинство генерала Шеймана стоят в три раза дороже, чем жизни пятидесяти молодых людей, погибших возле станции метро "Немига"

Приказ начальника — закон для подчиненных. Приказ должен быть выполнен беспрекословно, точно и в срок. Как должны выполняться приказы верхушки вертикальной пирамиды, белорусскому обществу продемонстрировано на примере газеты "Навіны".

16 сентября БТ на всю страну передало высочайшее указание закрыть в судебном порядке "вражеские" газеты. Секретарь Совбеза Виктор Шейман тут же пишет исковое заявление в суд на "Навіны" и журналиста Сергея Анисько о защите чести и достоинства. Иск молниеносно проходит все судейско-бюрократические процедуры в Московском райсуде, и еще до окончания рабочего дня судья Савич успевает арестовать счет этого издания. Сей служитель Фемиды действовал столь оперативно, что в тот же день успел описать домашнее имущество журналиста.

На подготовку к судебному разбирательству Анатолий Савич дал "виновникам" всего два дня. Процесс начался и закончился 24 сентября 1999 года. Рассматривалась статья Сергея Анисько "Кто в теремочке живет" ("Навіны", N104 за 14 сентября 1999 года). Секретарь Совета безопасности посчитал оскорблением для себя некоторые факты, изложенные автором газетной статьи. Так, фактические размеры дома 6х8, а не "примерно 8х10", как указал С.Анисько. Не заасфальтирована усадьба, не построена баня, одинаковый забор с соседней усадьбой и арочным входом не является единым ансамблем. Капитальный ремонт подъездной дороги в деревню "Подлипки", в которой расположен дом Виктора Шеймана, никоим образом не связан с должностным положением генерала...

Высокопоставленный генерал отстаивать в суде свою поруганную честь и достоинство сам не стал, а прислал подчиненного ему Анатолия Бержанина, бывшего в недавнем прошлом судьей областного уровня. Несмотря на то, что я присутствовал на процессе от начала до конца, так и не смог постичь сути этого "дачного" оскорбления. Потому как, на мой взгляд, в процессе не было гарантированных Конституцией (статья 115) состязательности и равенства сторон. К примеру, судья отказался удовлетворить ходатайство Сергея Анисько о приобщении к материалам дела фотографии одинакового у двух земельных участков забора и арки, но потребовал от журналиста подтверждения его слов в статье о том, что обе усадьбы составляют единый ансамбль. Можно привести несколько подобных эпизодов. Но более всего меня удивило то, что Виктор Шейман воспринял как оскорбление изложенную в статье "Кто в теремочке живет" информацию о том, что он путь от майора до генерала прошел за пять лет. Как кадровый офицер, утверждаю, что для военнослужащего это высшая похвала. Сергей Анисько, правда, ошибся в подсчете времени от момента, когда Виктор Шейман снял погоны майора и до даты облачения в генеральский мундир — прошло лишь около двух с половиной лет.

По требованию представителя истца суд не стал выяснять послужной список генерала, но, как пояснил Мечеслав Гриб, возглавлявший в Верховном Совете 12-го созыва Комиссию по национальной безопасности, а затем — Верховный Совет, представлений на присвоение майору Шейману очередного воинского звания подполковника он не подписывал. Следовательно, воинские звания подполковника, полковника и генерал-майора Виктор Шейман получил в период пребывания в должности секретаря Совета безопасности, то есть в период с 1994 по 1996 год.

Судья Савич требования генерала взыскать с газеты "Навіны" и журналиста С.Анисько 15 миллиардов рублей удовлетворил. По рыночному курсу это составляет 30.000, а по курсу Национального банка более 50.000 долларов. Чтобы представить величину этой суммы, напомню читателям, что родители детей, погибших четыре месяца назад возле станции метро "Немига", получили в качестве компенсации по 100 миллионов рублей (200 долларов по рыночному курсу). Родители всех погибших (а это более полусотни человек) получили вместе 5 миллиардов рублей — лишь треть той суммы, в которую генерал Шейман оценил свои честь и достоинство.

**Валерий ЩУКИН,**
**капитан 2-го ранга запаса.**

## "Задзіночанне беларускіх студэнтаў" спрабуе прыцягнуць увагу грамадскасці да жыллёвай праблемы студэнтаў мінскіх ВНУ

Пазаўчора раніцай, нягледзячы на моцны дождж, прадстаўнікі "Задзіночання беларускіх студэнтаў" (ЗБС) правялі ў Мінску, на плошчы Бангалор, двухгадзіннае санкцыянаванае пікетаванне.

Гэтая акцыя мела на мэце прыцягнуць увагу грамадскасці да бядотнага стану, у якім апынуліся шматлікія беларускія студэнты. Як паведаміла арганізатар пікету студэнтка Беларускага педагагічнага універсітэта Крысціна Сідун, размова ідзе, у прыватнасці, аб недахопе месцаў у інтэрнатах і несправядлівасці пры іх размеркаванні. Так, студэнтам, якія прыехалі з мястэчак, размешчаных непадалёк ад Мінска, наогул адмаўляюць у інтэрнаце. У акцыі бралі ўдзел 10 чалавек. Яны трымалі плакаты з надпісамі "Кожнаму студэнту — па даху", "У гасцях — добра, а дома — няма" і іншымі.

У размове з карэспандэнтам Крысціна Сідун паведаміла, што на мінулым тыдні штаб-кватэру ЗБС наведаў супрацоўнік КДБ. Ён цікавіўся дзейнасцю гэтай арганізацыі, праблемамі студэнтаў і прапаноўваў, каб аб фактах несправядлівасці члены ЗБС паведамлялі непасрэдна ў КДБ. Аднак прадстаўнікі арганізацыі, паводле слоў К.Сідун, ад такога супрацоўніцтва адмовіліся.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## "Садружнасць" падтрымлівае масавую акцыю пратэсту

Аб'яднаны камітэт прафсаюза прадпрымальнікаў Мінска і Мінскай вобласці "Садружнасць" падтрымае акцыю пратэсту Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай 30 верасня.

"Прафсаюз прадпрымальнікаў лічыць, што падчас катастрафічнага падзення ўзроўню жыцця індывідуальныя прадпрымальнікі Рэспублікі Беларусь абавязаныя падтрымаць акцыю рабочых, паколькі даходнасць дзейнасці прадпрымальнікаў залежыць у першую чаргу ад эканамічнага дабрабыту насельніцтва краіны ў цэлым і ад узроўню жыцця рабочых, урачоў, настаўнікаў і служачых", — гаворыцца ў адпаведнай заяве "Садружнасці".

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

Стоп-кадр

Як вы лічыце, што агульнага паміж гэтымі двума здымкамі? А вось што: і прыгожая сімвалічна-фантазійная "птушка", і падобны на сапраўдны веласіпед у руцэ хлопчыка зроблены з традыцыйнага ў беларускай народнай творчасці матэрыялу — залацістай саломкі.

І хоць гэта чароўная птушка не лятае, а на веласіпедзе не пакатаешся, дзівоснае ўмельства таленавітых народных майстрых саломапляцення выклікае здзіўленне і захапленне.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## Беларусь не выконвае свае абавязацельствы па пагашэнні запазычанасці за расійскі газ

Як паведаміла БелаПАН крыніца ў беларускім урадзе, праграма пагашэння запазычанасці Беларусі і забеспячэння бягучых плацяжоў за расійскі газ у 1999 годзе выконваецца толькі на 50,9 працэнта.

Так, згодна з праграмай, сёлета Беларусь павінна пералічыць "Газпраму" у лік аплаты бягучых паставак газу 120 мільёнаў долараў ЗША. Паводле звестак на 1 верасня, было пералічана 46,7 мільёна долараў ЗША, або 65,8 працэнта ад неабходнага.

Апрача таго, праграма прадугледжвае пастаўку матэрыяльна- тэхнічных рэсурсаў і тавараў народнага спажывання ў адрас прадпрыемстваў "Газпрама" на суму 184 мільёна долараў ЗША, а таксама бюджэтным арганізацыям Расійскай Федэрацыі ў лік пагашэння абавязацельства "Газпрама" перад федэральным бюджэтам — на суму 200 мільёнаў долараў ЗША. У гэтай частцы Беларусь выканала свае абавязацельствы на 26,7 працэнта.

Іншыя віды аплат за пастаўлены з Расіі прыродны газ (тэхнічны крэдыт, аплата ў форме налічэння і гэтак далей) склалі па стане на 1 верасня 48,5 мільёна долараў ЗША. Што ж тычыцца запазычанасці за пастаўлены газ, то з пачатку 1999 года і па стане на 1 верасня яна ўзрасла на 16,5 працэнта і з улікам пені склала 270,4 мільёна долараў ЗША.

**Яўген ГРУБІЧ.**

## Акцыя пратэсту працоўных адбудзецца і ў Гомелі

Гомельскі аблвыканкам дазволіў абласному аб'яднанню прафсаюзаў правесці 30 верасня — у дзень агульнарэспубліканскай акцыі пратэсту — мітынг супраць павышэння цэн і зніжэння рэальнай зарплаты.

Станоўчае рашэнне аблвыканкама з'явілася пасля асабістай сустрэчы намесніка старшыні прафсаюзнага аб'яднання Міхаіла Працкевіча з кіраўніком абласной "вертыкалі" Мікалаем Вайцянковым. Практычна палову дня М.Працкевіч правёў у прыёмнай кіраўніка аблвыканкама, чакаючы магчымасці высветліць сітуацыю. У выніку прайшоўшых перамоў бакі пагадзіліся, што забарона працоўным публічна абмеркаваць свае праблемы можа пацягнуць негатыўныя наступствы, і дамовіліся, што акцыя адбудзецца на стадыёне гомельскага радыёзавода.

Плануецца, што ў маючай адбыцца акцыі пратэсту возьмуць удзел не менш за 3 тысячы чалавек, якія прадстаўляюць каля 200 прамысловых прадпрыемстваў і бюджэтных арганізацый рэгіёна.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

Совсем не мелочь

## Пластиковые бутылки, бельгийские куры, кока-кола... Что дальше?

Немало наслышаны мы об опасных болезнях, которые угрожают потребителям завозимых из Бельгии кур и поставляемой с Запада популярной "Кока-Колы". Нисколько не веселее и прогноз, касающийся применения пластиковых бутылок. О стоп-сигнале для тех кур и привозного напитка мы тоже слышали. Но что касается наших местных напитков (в том числе газированных), то они как ни в чем не бывало продолжают оставаться на торговых полках магазинов, а пустые пластиковые бутылки по-прежнему валяются на наших улицах, так как пункты стеклотары их не принимают.

Казалось бы, почему нет должного реагирования соответствующих инстанций? Неужто прибыль дороже здоровья людей? Ведь сплошь и рядом в такой вредной таре по сей день продают в магазинах разные напитки, а на рынках — молоко. Многие используют их для своих домашних нужд. Конечно, они очень легки и удобны, однако... В итоге беды от них больше, чем пользы.

И не такая уж это мелочь, как кто-то может сказать. Речь идет об угрозе для здоровья многих. Пластиковые бутылки, изготовленные из очень дешевого (потому они так популярны у производителей) поливинилхлорида, который буквально через неделю после разлива начинает выделять в жидкость ядовитое вещество винилхлорид — источник многих болезней. Это канцероген, вызывающий отравление организма и даже рак.

Однако недвусмысленные предупреждения на сей счет если и даются, то так, что дойдут далеко не до каждого потребителя. Цитирую один из "мудрых" советов: "Если на донышке — тройка в треугольнике или аббревиатура РС — осторожно, бутылка ядовита! Выпить содержимое можете, но использовать тару повторно — ни в коем случае. Если найдете на бутылке кружок с буквами РЕТ в середине или изображение ножа и вилки — пускайте в дело, но, разумеется, не до бесконечности" и т.д.

Что тут сказать? Не только колхозницы, которые в таких вот бутылках привозят из деревни продавать молоко, но и большинство городских хозяек не сядут за парты для изучения технологии использования сомнительной тары. Вряд ли покупатели заведут дома специальные тетради для регистрации того, сколько раз ими использовалась та или иная пластиковая бутылка. Неужели им сегодня больше нечем заняться, кроме как этой, мягко говоря, бухгалтерией?

...Целыми рядами выставлены пластиковые бутылки с минеральной водой, соками и другими напитками в магазинах. Продается... угроза здоровью покупателей.

Тогда почему же замолчали об этом и наши СМИ, которые в свое время забили оправданную тревогу, а потом умолкли?

Между тем следует ставить вопрос круто и категорично перед органами управления: или производители опасной для здоровья наших граждан тары принципиально изменят технологию и состав указанной бутылочной массы или же пора немедленно прекратить выпуск этой ядовитой гадости.

**Яков ЛИФАНОВ, пенсионер.**
Минск.

## Белорусское представительство концерна Volkswagen AG объявило о начале тесного сотрудничества с национальной сборной по биатлону

Генеральный импортер концерна Volkswagen AG в Беларуси — иностранное предприятие "Атлант М Фарцойгхандель" — объявило о начале тесного сотрудничества с национальной сборной страны по биатлону с момента завершившегося в Раубичах летнего чемпионата мира по этому виду спорта.

Отношения между национальной сборной по биатлону и белорусским представительством Volkswagen строятся на взаимовыгодной основе. Со стороны ИП "Атлант М Фарцойгхандель" оказывается спонсорская поддержка в виде покупки для нужд сборной оргтехники, оснащения спортсменов экипировкой, покупки специального оборудования, приспособлений и снаряжения, необходимых для полноценного участия белорусских "стреляющих лыжников" в международных и национальных соревнованиях.

Национальная сборная по биатлону, со своей стороны, разрешила разместить на своей экипировке и костюмах фирменный логотип концерна Volkswagen AG. Кроме того, на автомобили VW Transporter и Multivan II, на которых ездят белорусские биатлонисты, также нанесены соответствующие надписи, свидетельствующие о спонсорской поддержке белорусского представительства концерна Volkswagen AG.

Главный тренер сборной страны по биатлону Александр Попов на недавней встрече с журналистами не скрывал удовлетворения по поводу сотрудничества с известным немецким производителем, отметив при этом, что подобная спонсорская поддержка — общепринятая мировая практика.

**Алексей ОРЕШКО.**

Крымінал

## "Быхаўскі санітар" прыгавораны да смяротнай кары

Да выключнай меры пакарання — расстрэлу — асуджаны ў горадзе Быхаве Магілёўскай вобласці серыйны забойца, які называў сябе "санітарам грамадства". На працягу апошніх некалькіх гадоў "быхаўскі санітар" забіў сякерай і закапаў у двары ўласнага дома трох жанчын. Чацвёртую ахвяру ён задушыў. Сам забойца сцвярджаў, што знішчаў толькі канчаткова апушчаных прадстаўніц "слабага полу".

## Магілёўская вобласць знаходзіцца на мяжы бюджэтнага крызісу

Магілёўская вобласць знаходзіцца на мяжы бюджэтнага крызісу: за 8 месяцаў гэтага года ў даход абласнога бюджэту паступіла 38,3 трыльёна рублёў — толькі 80 працэнтаў ад запланаванага.

Спецыялісты тлумачаць сітуацыю, перш за ўсё, зніжэннем паступленняў акцызнага падатку на гарэлку і лікёра-гарэлачныя вырабы: пакуль ад планавай гадавой сумы гэтага падатку ўдалося сабраць крыху больш за 40 працэнтаў. Вялікі ўрон эканоміцы вобласці нанеслі стратныя прадпрыемствы: у жніўні са стратамі спрацавала 31,3 працэнта ад іх агульнай колькасці, што прывяло да недаатрымання бюджэтам яшчэ 600 мільярдаў рублёў.

**Канстанцін УВАРАЎ, БелаПАН.**

Оглянись

# Диагноз: хамство

Это было чертовски неудачное воскресенье! Во-первых, пришлось выйти на работу, да еще не с утра, а к пяти. Во-вторых, не с кем было оставить сына и я взяла его с собой. В-третьих, работа, которую можно было сделать минут за 40, заняла 5 часов, и из редакции мы вышли в 10 вечера. Я очень нервничала: до дома добираться как минимум час, а ребенку завтра в детский сад.

Правда, признаков усталости в моем мальчике заметно не было. Он, как всегда, был готов прыгать, бегать, взбираться, свергаться. Поэтому, конечно же, не упустил возможности сбежать вниз по горочке от площади Свободы до остановки транспорта на Немиге. Да, бегает мой ребенок быстро!.. Поэтому мне тоже пришлось ускорить шаг и перейти на трусцу.

Сын скатился вниз и стоял на остановке, глядя на меня снизу вверх.

Когда я уже подбегала к остановке, подошел автобус, который подвозит нас к самому дому и которого ждать обычно приходится по 40 минут. "Слава Богу! Невезение кончилось!" — обрадовалась я. Автобус остановился. Дверь открылась прямо перед моим ребенком, он сделал движение вперед и оглянулся, ожидая меня. Я уже протянула руку к поручню, как вдруг дверь закрылась, но автобус продолжал стоять. Сын испуганно отшатнулся. Я словила в зеркале заднего вида взгляд водителя и помахала ему, показывая: мы — "его" пассажиры, он, видимо, неправильно понял. Автобус постоял еще несколько секунд и очень медленно начал отходить от остановки.

— Да что же это такое?! — от обиды и унижения на глаза навернулись слезы.

Мужчина, сидящий на остановке, досадливо крякнул:

— Вы что, не поняли? Он же удовольствие от этого получил!

— Мама! Зачем он это сделал?! — ребенок смотрел на меня испуганно и недоумевающе.

Как трудно мне объяснить 6-летнему человеку, зачем взрослый дядя так обидел и испугал его. Может быть, дядя устал? Или у него плохое настроение? А может, кто-то нахамил дяде, и он "оттянулся" доступным ему образом?

Мой жизненный опыт говорит, что хамство нельзя прощать. В тот момент я сделала первое, что пришло в голову, — поймала машину и, обогнав автобус, опять встала на остановке.

— Мама! А что мы будем делать?

— Бороться с хамством! — отрезала я.

Войдя в салон, я постучалась в кабину. Открылось небольшое окошко, через которое обычно покупают талоны. На меня смотрел симпатичный парень, упитанный и холеный...

— Что?

— Простите, я просто хотела посмотреть, как выглядит взрослый мужчина, который взялся доказывать, что он сильнее шестилетнего ребенка.

История вроде бы закончилась благополучно. Хам был поставлен на место, последнее слово осталось за мной, автобус довез нас до самого дома... Но почему-то история эта не избывается памятью, продолжает мучить, накатывая временами серой волной и портя настроение.

Разница в возрасте между моим ребенком и тем парнем за рулем автобуса — лет 20—25. Где гарантия, что еще через столько же ровесник сына, выросший в хамстве, не "согнет в бараний рог" уже стареющего к тому времени "водилу". Ибо что мы сеем, то и пожинаем.

Да, я не хочу допускать мысли, что это будет мой сын, что когда-нибудь он превратится в хама и сделает нечто подобное. Но меня пугает обилие хамства вокруг, то, с какой легкостью люди оскорбляют друг друга, пошлят, говорят скабрезности, сквернословят. Да и неудивительно: хамство пропагандируется самыми высокопоставленными лицами и тиражируется телевидением и радио, извергается из уст представителей власти и чиновников, становится языком общения врачей и учителей.

Когда моему мальчику было полтора года, он серьезно заболел. Болезнь проходила очень тяжело, диагноз был неутешительный и предполагал перетекание в хроническую форму. Хороший врач и мудрый человек тогда сказал мне, глядя в глаза: "Единственный ваш шанс — снять диагноз". После этого четыре года были посвящены тому, чтобы в конце концов услышать: "Ребенок практически здоров".

Теперь я чувствую то же, что и в течение тех четырех лет. Единственный мой, наш шанс — снять диагноз "хамство". Только для этого потребуется гораздо больше времени и усилия не одного человека.

Хаму я отвечаю возможным и допустимым для меня способом — написанием этой статьи. Газету, в которой она будет опубликована, я отнесу в автобусный парк, в котором работает тот водитель. Я знаю и его фамилию, и номер автобуса. Но не жажду крови. Я видела глаза этого человека в тот момент, когда разговаривала с ним, и мне показалось, что ему было — стыдно? может быть, не стыдно, но — неловко. А значит, что-то шевельнулось в душе и есть надежда, что хамство еще не разъело ее. Это дает мне силы не пойти по самому легкому пути — пути мести. Я хочу, чтобы меня поняли те, от кого во многом зависит наше настроение в течение дня и кто, к сожалению, так легко может нам его испортить. Может, воспоминание об этом эпизоде и о моменте чьей-то неловкости когда-то не даст им закрыть двери перед чьим-то носом, заставит подождать подбегающего пассажира. И если это случится, значит, моя борьба за "снятие диагноза" была небезуспешной.

**Александра ЛОБЗОВА.**

